Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **10** гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 2.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 10 (98) | Вільня, 13-га жніўня 1936 г. | Год 4-ты.

## Неабходнасьць зямельнае рэформы.

I.

Справа зямельнае рэформы зьяўляецца адным з важных пытаньняў у дзяржаўным жыцьці, і таму ня дзіва, што гэнай справай цікавяцца як палітычныя, так і дзяржаўныя дзеячы.

Як пішуць газэты, урадовыя кругі гатуюцца да зямельнае рэформы ў шырокім разьмеры, прычым гэным пытаньнем асабліва цікавяцца і Гэнэральны Інспэктар Аружных Сілаў генэрал Рыдз-Сьміглы і прэм'ер генэрал Славой-Складкоўскі. Паводле ўрадовага праэкту першы пэрыяд зямельнае рэформы абыйме 4 гады і на гэты час дзяржаўны скарб асыгнуе каля 180 мільёнаў злотых, якія пойдуць на зямельную рэформу і на арганізацыю новых сялянскіх гаспадарак.

Патрэбныя дзеля рэформы запасы зямлі будуць узяты з дзяржаўных і задоўжаных прыватных двароў, якія будуць распарцэлёваны. Відаць Урад добра разумее, што зямельная рэформа ня толькі палепшыць цяжкое палажэньне вёскі, але адначасна скране з мёртвага пункту застой у розных галінах жыцьця і дасьць належны адпор гаспадарчаму крызысу, барацьбу з якім якраз і трэба пачаць з палепшаньня вясковага жыцьця.

Пры цяперашнім імкненьні кожнае дзяржавы да самаабслужаваньня, міждзяржаўны гандаль значна абмежыўся і таму разьвіцьцё прамысловасьці пэўных дзяржаў цесна лучыцца з павялічэньнем купчай сілы жыхарства тых-жа самых дзяржаў.

У Польшчы, жыхарства якой у пераважнай большасьці займаецца земляробствам, разьвіцьцё прамысловасьці ў вялікай меры залежыць ад дабрабыту сялянства, якое зьяўляецца галоўным спажыўцом фабрычных тавараў.

Вось чаму перадусім дзяржаўныя інтарэсы вымагаюць як найхутчэйшага правядзеньня зямельнае рэформы, што добра зразумеў сучасны Урад, лічучы зямельную рэформу аднэй з найважнейшых і найпільнейшых дзяржаўных спраў.

Такія намеры Ураду выклікалі пэўнае рэха ў прэсе розных кірункаў, прычым кансэрватыўныя газэты на розныя лады пачалі даказваць, што зямельная рэформа, абапёртая ці палучаная з парцэляцыяй існуючых двароў, не прынясе карысьці ані сялянам, ані Дзяржаве.

Зямельную рэформу прадстаўнікі гэтага кірунку разумеюць, як замену сучаснай вясковай цераспалосіцы на хутары і як забарону драбленьня сялянскіх гаспадарак.

II.

### Хутар ці вёска?

Вось пытаньне, якое павінна быць вельмі асьцярожна, паважна ды ўсебакова разважана пры рэалізацыі зямельнае рэформы. Дагэтуль, нажаль, ніхто відаць ані з нашых сялян, якіх гэта перадусім павінна цікавіць, ані так зв. „земскія ўжэнды" над гэтым пытаньнем не затрымоўваліся, а, прыняўшы гатовую сталынінскую формулу хутарнае гаспадаркі, разьдзіралі жывы арганізм нашае вёскі на безалаберна раскіданыя хутары. У выніку гэтага неабдуманага шагу бачым разбураную вёску з тырчачымі, як пасьля пажару камінамі ды голыя агідныя будынкі хутароў. Шмат дзе ўжо сяляне пачынаюць праклінаць гэнае "дабрадзейства" так праведзенае зямельнае рэформы, але памагчы свайму гору ня могуць.

Прыймаючы пад увагу, што сучасная беларуская вёска з яе „цераспалосіцай" ды вузенькімі шнуркамі таксама з пункту гледжаньня рацыянальнае гаспадаркі мае шмат засьцярогаў, разглядзім пытаньне ўпарадкаваньня зямельнага карыстаньня больш падрабязна.

Вёска-гэта форма сужыцьця, створаная свабоднай воляй чалавека, а не прадукт нейкага загаду тае ці іншае дзяржаўнае ўстановы. Вёска—гэта натуральная форма сужыцьця, створаная чалавекам, як адзінкаю па псыхіцы сваёй грамадзка-сацыяльнаю.

У сучасны мамэнт, калі на надзельным вучастку жыве не адна сям'я, а часта дзесяць, на вёсцы рацыянальная гаспадарка стала немагчымай, гэта праўда, аднак ня трэба забываць, што такі стан рэчы ня быў заўсёды. Быў-жа час, калі на надзеле жыла адна сям'я, а надзел у некаторых мясцох даходзіў да 30-40 дзесянцін. Чаму-ж тады, калі яшчэ ня было зямельнага голаду, калі на такіх вялікіх надзелах можна было будаваць зусім добрыя хутарныя гаспадаркі, людзі выбралі сабе вясковую форму? Ці-ж хутар гэта вытвар сталынінскага „гэнія", а дагэтуль людзі ня стыкаліся з такою «цудоўнаю» формаю зямельнае гаспадаркі? Не, бо-ж яшчэ у глыбокай мінуўшчыне мы таксама спатыкаемся з невялікімі самастойнымі фальваркамі—хутарамі.

Аднак чамусьці гэткая форма гаспадарак не пашырылася, а засталася вёска. Тое, што ўспомненыя надзелы, скажуць мне, засталі ўжо вёску гатовую, ня можа падважыць свабоднага выбару такое формы чалавекам, бо-ж нават у пазьнейшыя часы, калі нейкая грамада людзей купляла супольна маёнтак, а такіх выпадкаў мы знаем шмат, дык пераважна сялілася грамадою—ў вёсцы, а не на хутарох. Нават у часы таго-ж аслаўленага Сталыпіна, калі хутарная сыстэма была неабходным варункам для таго, каб атрымаць пазычку на зямлю пры парцэляцыі маёнткаў з так званага „Крестьянскаго Поземельнаго Банка", сталыпінская норма зямельных участкаў (даўжыня да шырыні ня менш як 5:2) існавала толькі на паперы, бо-ж фактычна сяляне надзел гэны пасьля рабілі самі паводле разумнага з пункту гледжаньня гаспадарчага выкарыстаньня характару той ці іншай зямельнай плошчы.

У вёску гнаў нашых сялян ня нейкі закон, а інстынкт самазахаваньня ды зразуменьне сілы грамады. Калі ў сучасны мамэнт, пры грамадзкім ладзе сужыцьця, культура на нашай вёсцы вельмі і вельмі ня высокая, дык што-ж было-б тады, калі-б людзі жылі на бязлюдзьдзі, параскіданыя па пушчах ды балотах?

Ці-ж пры хутарнай сыстэме можна гаварыць аб палепшаньні дарогаў, арганізацыі народных дамоў, бібліятэкаў, чытальняў, лазьняў,коопэратываў, электрычнага асьвятленьня, тэлефонаў і т. п. культурных здабычаў, без каторых чалавек проста зьдзічэе?

А школьная асьвета, якая ў Польшчы фармальна зьяўляецца абавязкавай? Ці-ж пры застасаваньні хутарнае гаспадаркі магчыма будзе арганізаваць больш-менш правільную пастаноўку нават пачаткавае школы самай нізкай ступені?

Калі нават у сучасны мамэнт у вёсках адсутнасьць дзяцей у школе ўвясну ды ўвосень часта даходзіць да 80%, дык што-ж было-б пры хутарнай сыстэме? Такое самае зьявішча хіба было-б праз цэлы год, а мо' зімою наглядалася-б нават яшчэ большая адсутнасьць, бо-ж сьнежныя завеі пры бездарожжы зусім адрэзалі-б шмат якія хутары ня толькі ад школы, але і ўсяго сьвету.

З гаспадарчага пункту гледжаньня хутарная сыстэма можа на нейкі час і дала-б пэўнае палепшаньне, але пры найлепшых варунках — толькі на пэўны час, а пасьля магло-б наступіць яшчэ большае пагоршаньне, бо-ж хутарная сыстэма не разьвязвае ані беззямельля ў сувязі з павялічэньнем насельніцтва, ані безрабоцьця. Малазямельле і безрабоцьце змушаюць селяніна шукаць іншых спосабаў заработку апрача ральлі, змушаюць яго перадусім да арганізацыі народнага промыслу, каторы, як ведама, ня толькі павінен абмежавацца так званымі „самадзеламі", а павінен пашырацца на іншыя галіны вытворчасьці.

З усяго вышэйсказанага трэба прыйсьці да вываду, што хутарная сыстэма не разьвязвае балючага пытаньня малазямельля і безрабоцьця і дзеля гэтага пры рэалізацыі зямельнае рэформы трэба над гэтым падумаць.

Зразумела, што з гаспадарчага пункту гледжаньня сучасны стан вёскі таксама немагчымы і дзеля гэтага трэба шукаць нейкага іншага выхаду. Трэба кардынальна зьмяніць усю сучасную форму зямельнага карыстаньня, надаўшы ёй характар коопэрацыі. Аб гэтым пытаньні і пагаворым у наступным нумары „Роднага Краю".

## У Гішпанскім катле.

Гішпанская хатняя вайна з кожным днём пашыраецца, захопліваючы ў сваю арбіту іншыя дзяржавы, а перадусім: Італію, Францыю, Англію, Нямеччыну ды Маскву. Пры гэтым часьць дзяржаваў стаіць на баку сучаснага гішпанскага ўраду, часьць — на баку паўстанцаў.

Шмат для каго зьяўляецца незразумелым, чаму гэныя дзяржавы лезуць у хатнія справы гішпанцаў. Прычым вытвараецца ўражаньне, што на гішпанскай тэрыторыі адбываецца выключна палітычная барацьба фашызму з камунізмам. У пэўнай ступені, зразумела, ідзе барацьба палітычная, аднак зацікаўленым дзяржавам залежыць ня толькі на тэй ці іншай форме сацыяльнага ладу ў Гішпаніі (як у гэным зацікаўлены самі гішпанцы), а таксама, а мо' і найбольш, аб свае собскія інтарэсы.

Аб гэтым сьведчыць перадусім тактыка Францыі: левы францускі ўрад Блюма рад-бы памагчы леваму ўраду Гішпаніі, аднак, ня ведаючы сёньня, хто возьме верх, стараецца падгаварыць ін-

(Працяг на 2 стр.)

шыя дзяржавы захоўваць нэйтралітэт.

Справа ў тым, што Францыя найбольш зацікаўлена ў тым, каб хатняя вайна ў Гішпаніі як найхутчэй скончылася, незалежна ўрэшце ад таго, хто выйдзе пераможнікам. Францыя зацікаўлена ў Гішпаніі перадусім сваім *капіталам*, які сягае *да 6 мільярдаў франкаў.*

Трэба ведаць, што Гішпанія, маючы тэрыторыю ў 5 разоў большую ад Польшчы, мае ўсяго 22 мільёны насельніцтва ды вялікае натуральнае багацьце. Сваіх капіталаў у сучасны мамэнт Гішпанія ня мае і дзеля гэтага зьяўляецца вялікім рынкам збыту і прыманкі для іншых загранічных капіталаў, а перадусім францускага ды ангельскага. Усе амаль прамысловыя аб'екты, як: чыгункі, трамваі, электроўні, газоўні, тэкстыльныя фабрыкі і г. д.—ўсё гэта становіць маемасьць францускіх і ангельскіх капіталістаў. Вось чаму кожны пушачны снарад, які падае на гэныя аб'екты з таго ці іншага боку, ўсё роўна б'е перадусім па Францыі ды Англіі.

Зусім іншае становішча ў гэтым пытаньні займае нямецкі капітал. Дагэтуль Нямеччына вельмі мала гаспадарча была зьвязана з Гішпаніяй, дзякуючы канкурэнцыі Францыі і Англіі і дзеля гэтага ў сучасны мамэнт якраз ёй залежыць на тым, каб зруйнаваць сваіх канкурэнтаў. Вось чаму Нямеччыне залежыць на як найбольшым разбурэньні Гішпаніі. Вось чаму Гітлер усімі сіламі стараецца падтрымаць гішпанскіх паўстанцаў. Ён добра ведае, што толькі тады, калі перамогуць паўстанцы, для нямецкага капіталу адчыніцца шырокае поле дзейнасьці.

І калі Муссоліні шукае ў Гішпаніі, можна сказаць, выключна палітычнай здабычы (Гішпанскае Марокко), то якраз Нямеччына зацікаўлена амаль што выключна гаспадарчымі інтарэсамі.

А ў выніку усіх гэных капіталістычных комбінацыяў ракою льецца кроў гішпанскага работніка і гішпанскага селяніна.

## Дружына Беларускіх скаўтаў ім. Фр. Багушэвіча.

У беларускім жыцьці важным здарэньнем зьяўляецца кожнае новае заснаваньне нейкае арганзацыі — важным дзеля таго, што яно сьведчыць аб ахвоце да працы, якое праяўляецца ў нашым грамадзянстве. Нажаль гэтыя здарэньні вельмі рэдкія і таму няма нічога дзіўнага, што аб іх шмат гаворацЬ, а нават і пішуць.

У свой час шмат пісалася пра новую арганізацыю нашае моладзі — Беларускі Скаўтынг. Беларускія часопісі розных кірункаў, інфармуючы сваіх чытачоў аб залажэньні Дружыны, сьцвярджалі,што ідэалы скаўтаў карысныя для нашага народу і аднагалосна жадалі маладой арганізацыі, каб яна шчасьліва перамагла ўсе перашкоды і належна павяла сваю карысную працу.

Цяпер, калі відаць, што Дружына Беларускіх Скаўтаў што-раз больш разьвіваецца і што-раз шырэй разгортвае сваю дзейнасьць, зусім ня думаючы кідаць яе, спатыкаючы пэўныя перашкоды (як гэта ўжо некалі здаралася з падобнымі арганізацыямі ў Вільні і на правінцыі),— варта напісаць аб ёй некалькі слоў.

Дружына Беларускіх Скаўтаў ім Фр. Багушэвіча пакуль што вядзе сваю працу выключна сярод вучнёўскае моладзі і таму, зразумела, цесна зьвязаная з Віленскай Беларускай Гімназіяй, кіраўніцтва якой апякуецца скаўтамі ад мамэнту залажэньня іх арганізацыі.

Беларускі Скаўтынг паўстаў з ініцыятывы гуртка вучняў старэйшых клясаў В.Б.Г. Гэтая моладзь добра зразумела патрэбу пашырэньня высокіх скаўцкіх ідэалаў у нашым грамадзянстве і таму энэргічна ўзялася за працу.

Гістарычным днём паўстаньня Дружыны імя Багушэвіча зьяўляецца дзень 6 сакавіка 1935 г., калі адбылася першая сходка яе сяброў, якіх было ўсяго 12 чалавек. Адразу пасьля гэтага пачалася жвавая арганізацыйная праца ўнутры дружыны і прапаганда скаўцкіх ідэалаў, правоў і заданьняў звонку яе. У выніку — ужо ў красавіку, г. зн, за месяц, лік скаўтаў даходзіць да 26.

Ад першага траўня 1935 г. Дружына Бел. Ск. ім. Фр. Багушэвіча ўвайшла як сябра ў Саюз Польскіх Скаўтаў (Z.H.P.), бо інакшай нашая Дружына не магла-б належыць да Міжнароднага Скаўтынгу. Кіраўніцтва Польскіх Скаўтаў беларускім дружыновым назначыла К. Паўля, вучня ВБГ.

З гэтага часу ў Дружыне вядзецца нармальная грамадзкая і ўзгадаваўчая праца. Адбываюцца спэцыяльныя лекцыі на тэмы з гісторыі, літэратуры і геаграфіі Беларусі (на гэтыя прадметы сучасная школьная праграма пакідае няшмат месца і таму дзейнасьць скаўтаў у гэтай галіне вельмі важная). На іншых лекцыя і „гутарках" скаўты пазнаюць скаўцкае права і забавязаньні (пераклад міжнароднага „Ск. пр. і заб." на беларускую мову ўжо зроблены адным з другаў). На даволі частых зборках скаўты адбываюць скаўцкую муштру, якая мае на мэце здысцыплінаваць іх.

Рада Дружыны апрацавала ўзор вопраткі для беларускіх скаўтаў. У вопратцы важнай часткай зьяўляюцца нацыянальныя адзнакі, праэкты якіх апрацавалі скаўты з дапамогай беларускага мастака грам. Сергіевіча. Таксама, пры ўчасьці старэйшага грамадзянства, скаўты апрацавалі беларускую тэрміналёгію для каманды.

У чэрвені 1935 г. выйшаў першы нумар сьцен-газэты Дружыны— „Беларускі Скаўт". Сёлета ў скаўцкай сьвятліцы зьявіліся далейшыя, багатыя зьместам, нумары гэтае часопісі малядняка.

Дружына не абмежылася толькі працай унутры, але здолела зрабіць таксама і ўдалыя вонкавыя выступленьні.

На Агульнаскаўцкім Зьлёце ў Спале (1935 г.), дзе нашыя скаўты здабылі сабе папулярнасьць прыгожым пяяньнем мэлёдыйных народных песьняў, абоз беларусаў быў залічаны да найлепшых (катэгорыя „А"), а скаўцкі бег з перашкодамі—„чубчыкі", як іх празвалі на абозе, скончылі з добрым вынікам, што ўдалося толькі некалькім дружынам.

У кастрычніку мінулага году ў міжшкольных каяковых выперадках на Вільлі першае месца ў групе малодшых здабываюць два скаўты з Беларускай Дружыны.

У віленскіх скаўцкіх васеньніх бегах першае месца заняў ізноў-жа беларускі аддзел, хаця было шмат канкурэнтаў.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што з пункту гледжаньня фізычнага разьвіцьця скаўтынг даў моладзі вельмі шмат. А гэта-ж якраз адно з яго найважнейшых заданьняў — выхаваць чалавека, у якога „ў здаровым целе—здаровы беларускі дух".

Належачы да Саюзу Польскіх Скаўтаў, другі з Дружыны імя Фр. Багушэвіча ні на хвіліну не забываюцца, што яны беларусы, і падчырківаюць гэта ладжаньнем розных нацыянальных імпрэзаў, як акадэміі, літэратурныя зборкі і г. д. З гэтых імпрэзаў варта адзначыць дзьве найважнейшыя.

15 лістапада 1935 г. нашыя скаўты зарганізавалі сьвяткаваньне 15-тых угодкоў Слуцкага паўстаньня. На сьвяткаваньні інж. Бусел, б. учасьнік гэтага паўстаньня, прачытаў аб ім рэфэрат. Вечар адбыўся ў залі гімназіі ў прысутнасьці школьнае моладзі і гасьцей.

25-га сакавіка 1936 г. у скаўцкай сьвятліцы адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне ўгодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. У праграму ўвайшлі прамовы, рэфэраты і песьні ў выкананьні скаўцкага хору.

Адным словам — Дружына імя Багушэвіча працуе.

Нажаль, у сваёй энэргічнай працы Беларускі Скаўтынг часта сустракае матэр'яльныя перашкоды, якія гэтую працу часткова паралізуюць. Каб памагчы маладой арганізацыі, старэйшае грамадзянства ў лютым 1936 г. залажыла Гурток Прыяцеляў Беларускіх Скаўтаў, мэтай якога зьяўляецца маральнае і матэр'яльнае падтрыманьне беларускае Дружыны. Тымчасам гэты Гурток невялікі, але трэба думаць, што ён хутка разаўецца так, як разьвілася самая Дружына імя Багушэвіча, у якой ёсьць цяпер звыш 40 чалавек.

На заканчэньне варта яшчэ зазначыць, што да гэтага году да Беларускага Скаўтынгу належылі выключна хлопцы. Але перад канцом сёлетняга школьнага году, дзякуючы энэргіі некаторых вучаніц В. Б. Г., аснавалася і жаноцкая скаўцкая дружына, якая аднак не змагла яшчэ разьвіць сваю працу.

Здаровыя скаўцкія ідэалы абхапляюць што-раз большыя кругі беларускае школьнае моладзі. З часам яны перанясуцца з гораду на вёску, і тады ўсё часьцей ды часьцей панясецца праз густыя лясы і—цьвітучыя сенажаці Беларусі энэргічны кліч: „Будзь гатоў!" —

*Малады.*

## З правінцыі.

**В. Запольле, Карэлічанскае валасьці.**

Каля нас і моладзь і старэйшыя людзі сьвядомыя беларусы. Мусіць дзеля гэтага мы ня маем спачуцьця з боку тых людзей, якія, здавалася-б, павінны памагаць нам „стацца людзьмі". Так, прыкладам, у нашай вёсцы адчынілі беларускую школу, але кіраўнік школы, ня гледзячы на тое, што школа адчынена школьнымі ўладамі, загадаў якіх ён павінен слухацца, з пагардай трактуе нашую мову, нашых дзяцей і варожа адносіцца да ўсяго беларускага. Гэткія яго адносіны паралізуюць тыя намеры, якія мелі школьня ўлады, адчыняючы школу.

Ня лепш адносяцца да людзей і нашыя праваслаўныя духоўнікі ў нашых прыходах. Заместа навучаньня яны выдумляюць на людзей розныя няіснуючыя рэчы і гэтым адбіваюць народ ад царквы. Вось таму ў царкву каля нас мала хто ходзіць—ня йдзе моладзь, ня йдуць і старэйшыя, бо-ж крыкам аніяк не загоніш у царкву. Дзіўна і незразумела, чаму ўсё так робіцца. *К—ін.*

## Сацыялісты у „краі сацыялізму".

»Соціалистическій Вѣстник", маючы як ведама добра наладжаную падпольную інфармацыю з савецкага жыцьця, зьмяшчае ў нумары 13 вельмі цікавыя дадзеныя аб палажэньні ўСССР сацыялістаў,

„Апублікаваньне канстытуцыі, — піша „Вѣстник", — і шматлікія гутаркі аб правох грамадзяніна і нават аб асабістай нятыкальнасьці сацыялістаў, якія знаходзяцца ў ссылцы і вастрогах, пакуль што адбіліся вельмі арыгінальна. Па нечай дырэктыве ці то прыпадковых абставінах, амаль усюды, на сацыялістаў пасыпаліся новыя беды і з аднаго месца перасылаюць іх у другое, саджаюць ізноў сасланых у вастрогі, пазбаўляюць права на працу, заганяюць іх у глухія куткі. Палажэньне людзей, якія нясуць гэты крыж ужо 10—15 гадоў сапраўды трагічнае

## Актуальная справа.

Польскія газэты розных кірункаў (апрача крайніх левых) амаль у кожным нумары б'юць трывогу з прычыны пашырэньня камунізму. „Разрост камунізму пагражае Дзяржаве", „Недапушчальная падатлівасьць грамадзянства на прапаганду Камінтэрну", „Пагроза сьмерці ад чырвонай заразы" — такія і падобныя да іх загалоўкі, друкаваныя вялізарнымі літарамі, кідаюцца ў вочы кожнаму, хто, праходзячы каля вулічных кіоскаў, зьверне ўвагу на вывешаныя ў іх газэты.

Чытаючы артыкулы пад гэтымі трывожнымі загалоўкамі, можна лёгка заўважыць адно вельмі характэрнае зьявішча — большая частка іх аснавана на карэспандэнцыях з вёскі. І ў гэтым няма нічога дзіўнага, бо незарганізаваная з грамадзкага пункту гледжаньня і прытым вымучаная гаспадарчым крызысам вёска прадстаўляе матэр'ял шмат больш падатны камуністычнай прапагандзе, чым горад.

Камінтэрн, здаецца, зразумеў гэта—ён шле на польскую вёску цэлыя арміі сваіх агітатараў і засыпае яе сотнямі тысяч сваіх „бібулак".

Ня мінае камуністычная прапаганда і беларускае ці ўкраінскае вёскі. Наадварот, тут вядзецца яшчэ шырэйшая акцыя, бо тут жыхарства больш незадаволенае—гэта-ж нацыянальныя меншасьці.

Камуністычная прапаганда на вёсцы дасягае мэты. Камунізм пашыраецца і, сапраўды, пачынае пагражаць будучыні Дзяржавы, заклікаючы жыхарства да выступленьняў супроць ураду і г. д.

Пашырэньню камунізму спрыяе перадусім вельмі карысная для яго пасыўнасьць грамадзянства. Праўда, права прадбачыць суровыя кары для камуністаў і старанна змагаецца з імі, але гэтага мэтаду барацьбы мала.

Для змаганьня з ўплывамі Камінтэрну мала судовага перасьледваньня і караньня камуністаў і псэўдо-камуністаў. Часта суровы прысуд абвінавачанага ў камунізме выклікае ў сялянскай масе зусім адваротнае ўражаньне.

Калі-б у вёсцы знайшоўся нейкі сьведамы чалавек, маючы давер сялян, дык ён мог-бы лёгка перамагчы сваімі разважнымі пэўнымі словамі ўплывы камуністычных агітатараў. Такім чалавекам можа быць перадусім інтэлігент—вучыцель ці ўрадовец. Нажаль, на беларускай вёсцы гэтыя асобы зусім ня маюць даверу сялян, бо яны людзі зусім чужыя для нашага селяніна. Таму яны і ня маюць на вёску аніякага ўплыву.

На месца чужых сялянам „душой і целам" інтэлігентаў трэба было-б выслаць на вёску людзей, знаёмых з варункамі жыцьця і працы ў нашай вёсцы, якія роднай мовай і шчырым зразуменьнем патрэбаў селяніна здабудуць яго давер. Гэтыя людзі пэўне здолеюць перамагчы шкодную для Дзяржавы камуністычную прапаганду.

На вёску, як ведама, сыплюцца сотні, тысячы розных адозваў, брашурак, і іншай „бібулы", якая даходзіць усюды. Тоненькая, густа задрукаваная карталюшка пераходзіць з рук у рукі, з хаты ў хату, з вёскі ў вёску і, апісваючы яскравымі хварбамі пераважна выдуманыя здарэньні, здабывае для камунізму што-раз новых сымпатыкаў. „Бібула" мае вялікі давер у сялян, бо яна пішыцца пабеларуску, а на нашую вёску наагул рэдка заглядае беларускае друкаванае слова. Польская-ж прэса ці кніжка ня дзеіць на беларуса і не пераконвае яго. Для пераможнага змаганьня з уплывамі рознай „бібулы" на нашай вёсцы патрэбна роднае—беларускае — друкаванае слова, якое-б часта і сыстэматычна, без „прапажаў у дарозе", даходзіла да селяніна, усьведамляючы яго нацыянальна, грамадзка

